# КРЫВІНКА

ВЕРАСЕНЬ
№ 14 (204)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ПАБУДАВАЛІ 300 МЕТРАЎ ХОДНІКА

**Нядаўна на вуліцы Інтэрнацыянальнай у Бешанковічах, там, дзе паварот на гарадскую лазню, пабудавалі кавалак ходніка. Улетку паклалі бардзюры, а потым падсыпалі шчабёнкай і заасфальтавалі. Работа доўжылася некалькі месяцаў. Але, дзякуй богу, закончылася, і цяпер людзі могуць карыстацца новым ходнікам.**

Такіх просценькіх асфальтаваных ходнікаў у Бешанковічах трэба пабудаваць, калі сціпла лічыць, кіламетраў з дзесяць-пятнаццаць. А пабудавалі 300 метраў. Значыцца, праз 40 – 50 гадоў Бешанковічы могуць пахваліцца нейкай цывілізаванасцю, няхай і не зусім сучаснай.

Вядома, нам трэба шчыра падзякаваць начальніку камунгаса за праяўлены клопат. Усё ж кожны год Бешанковічы прырастаюць новымі ходнікамі, або тут рамантуюцца старыя. Але не-не ды й закрадваецца ў галаў чарвяк сумнення: а чаму паклалі толькі 300 метраў? Няўжо і праўда прыйдзецца чакаць паўвека, каб прайсціся па Чкалава ці Шварцмана ходнікамі?

Думаецца, пры вялікім жаданні пытанне ўсталявання ходнікаў можна было б вырашыць за год-другі. Але для гэтага патрэбна Праграма, пад якую б выбіваліся сродкі. Так, трэба было б паездзіць у Мінск, пакланяцца начальству, адным словам, пабіць ногі. Такая ўжо ў нас склалася сістэма, што, калі не маеш сваіх, трэба прасіць грошы з бюджэту. Ёсць жа ня на розныя сумнеўныя мерапрыемствы, кшталту тых жа вайсковых вучэнняў "Захад -2017". Вось зэканомілі б на запуску адной ракеты ці адным залпе "Града", і хапіла б сродкаў на нейкі кіламетр ходнікаў.

Памятаю, як гадоў дзесяць таму на жніўеньскай настаўніцкай канферэнцыі тагачасны старшыня райвыканкама Пётр Якаўлеў пахваліўся забрукаваным пляцам перад райвыканкамам. Сапраўды, для 2007 года рознакаляровая брукаванка выглядала для райцэнтра незвычайна прыгожа. На пытанне, адкуль узялі грошы, Якаўлеў падкрэсліў, што з раённага бюджэту не ўзята ні капейкі. Усё прафінансавана пазабюджэтнымі сродкамі. Здавалася б, ну вось, пачатак добры. Але потым, пасля ўладкавання каляровага ходніка каля райвыканкама, справа чамусьці заглухла. Ці то пазабюджэтныя сродкі скончыліся, ці то жаданні старшыняў райвыканкамаў не супадалі з пільнымі задачамі раёна – невядома. Толькі факт застаецца фактам – у Бешанковічах, акрамя трох цэнтральных вуліц, ходнікаў сёння няма.

Думаецца, што раптоўнага жадання іх зрабіць у новага старшыні райвыканкама не ўзнікне. А чакаць, што ў Бешанковічах правядуць чарговыя "Дажынкі" не прыходзіцца: чарга на іх распісана на некалькі гадоў наперад, і Бешанковічаў у тым спісе няма.

На слушную думку нашага прэзідэнта, багатыя людзі мусяць дапамагаць добраўпарадкаваць тыя месцы, дзе яны нарадзіліся ці жылі. Скажам, працаваў у Бешанковічах 30 гадоў таму дырэктарам "Сельэнерга" Сяргей Падгайскі. І нядрэнна працаваў. А потым зрабіў сабе кар'еру, стаў выдатным бізнесоўцам. Яго імя можна знайсці сёння ў спісе 100 лепшых бізнесоўцаў Беларусі. Я лічу, калі б яго папрасілі, то ён не адказаў бы сабе ў задавальненні заасфальтаваць вуліцу, дзе некалі месцілася ягоная арганізацыя, ды яшчэ з ходнікамі. А раённыя ўлады маглі б паклапаціцца пра тое, каб на гэтай вуліцы ўсталяваць памятную дошку пра гэту падзею.

Але па вялікаму рахунку нам не трэба нікому кланяцца. Трэба адкрыць у банку рахунак, куды б старшыня райвыканкама з паплечнікамі з кожнай зарплаты пераводзілі б па 10 рублёў. Думаю, яны не пабяднеюць, а больш не трэба. У тым, што іх падтрымае асноўная маса жыхароў райцэнтра, сумнення няма. Як кажуць, са свету па нітцы – голаму кашуля.

Працаваць трэба. Ставіць задачы і іх вырашаць. Свае дачы і свае ўласныя праблемы пачакалі б крыху. Мы можам зрабіць Бешанковічы ўтульным еўрапейскім горадам. Хто нас натхніць на гэты подзвіг?

**Г.Станкевіч**

## *ГЕНАДЗЮ ШЭПЕЛЕВУ*

*На Крапівенскім полі*
*не спіць векавечная ціш,*
*яна птушкай спрасоння*
*начныя прасторы пабудзіць.*
*Толькі гэтага хопіць,*
*і ты стрымгалоў паляціш*
*прэч з краіны, дзе сёння*
*жыццё патанула ў аблудзе.*

*Сцежкай роснай,*
*нібыта крывёю палітай, пайду,*
*атрымаць рызыкуючы*
*дзідаю вострай – пад сэрца.*
*Перакуліцца неба,*
*і ніцма ўпадзе на ваду,*
*а на шаблі рука*
*замярцвее і больш не сагнецца.*

*Толькі смерць – не падстава*
*сыходзіць на вечны спачын,*
*пагатоў яна нас*
*выракацца сябе не прымусіць:*
*Багародзіцай-гімнам*
*світанак ізноў загучыць,*
*бел-чырвоным штандарам*
*над полем узнімецца бусел.*

*Я памру і ўвакрэсну,*
*як гэта рабіў сто вякоў,*
*з ваярамі ў шыхтах*
*ці з аратымі выйду на поле.*
*Над маёю зямлёй*
*будзе велічны дыхаць спакой,*
*палыновай тугой*
*будзе сэрца шчымець, як ніколі.*

***Г.Станкевіч***



НАША ЖЫЦЦЁ

## У ЗАБЕЛЛІ РАЗБУРЫЛІ ДОМ КУЛЬТУРЫ

**Спачатку трошкі гістарычных фактаў.**

Перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны ў вёсцы Забелле Бешанковіцкага раёна налічвалася 55 двароў. У вёсцы пражывала 210 жыхароў.

У 1996-м годзе ў вёсцы пражывала толькі 122 жыхары. У 2007 годзе тут была зачынена базавая школа. Сёння ў вёсцы засталося 66 чалавек, з іх толькі пяцёра дзяцей.

У 1972-м годзе ў Забеллі пабудавалі сельскі Дом культуры, у будынку якога размясціліся фельчарска-акушэрскі пункт, паштовае аддзяленне, філіял камбіната бытавога абслугоўвання і кантора мясцовай гаспадаркі.

З пачаткам "рэформаў" у сельскай гаспадарцы раёна і ўзбуйненняў гаспадарак мясцовы калгас "Наперад", які займаўся авечкагадоўляй, ліквідавалі адным з першых. З Дома культуры знялі шыльду праўлення калгаса. Пазней перавялі ў іншы будынак – памяшканне дзіцячага сада – мясцовы ФАП. Апошняй з будынка сышло паштовае аддзяленне.

Гадоў з дзесяць будынак прастаяў без гаспадароў. Зразумела, з яго штосьці сцягнулі мясцовыя жыхары. Але двухпавярховы будынак паранейшаму заставаўся прыгожай дамінантай вёскі.

І вось сёлета на пачатку жніўня сюды завіталі "будаўнікі". Дом культуры пачалі разбураць. За месяц напружанай працы з яго знялі і кудысьці вывезлі пліты перакрыцця, а сцены зруйнавалі і закапалі ў зямлю.

Мясцовыя кажуць, што на чарзе, пэўна, моцны яшчэ будынак магазіна, бо там таксама яшчэ можна чымнічым пажывіцца.

У вядомым гімне камуністаў спявалася: «Весь мир насилья мы разрушим до основанья, а затем…» Няўжо мы ўсё яшчэ будуем камунізм і нам трэба зруйнаваць усё тое, што засталося ў спадчыну, што яшчэ трымаецца?

**А. Тутэйшы**

РЫНАК ПРАЦЫ

## КУДЫ ПАЙСЦІ ПРАЦАВАЦЬ?

**У базе дадзеных Дзяржаўнай службы занятасці па Бешанковіцкаму раёну на канец верасня маецца 47 вакансій. Гэта на 5 вакансій менш, чым было на пачатку 2017 года.**

"Бешанковіцкаму аграсервісу" патрабуюцца аператары машыннага даення з заробкам 280 рублёў, бугалтар са сярэдняй спецыяльнай адукацыяй (270), жывёлаводы (270) і трактарысты (270), галоўны ветурач і галоўны заатэхнік з вышэйшай адукацыяй (350).

Дзяржаўнаму прадпрыемству "ПлісыАгра" патрэбны інжынер-механік з заробкам 280 рублёў (сярэдняя-спецыяльная адукацыя), заатэхнік (280 руб).

Унітарнае прадпрыемства "Свіціна ВМК" шукае ветэрынара з вышэйшай адукацыяй (500 рублёў), аператара па ветэрынарнай апрацоўцы жывёл (400 руб), інжынера па цеплафікацыі (400 руб).

Дзяржаўнаму прадпрыемству "ДраздыАгра" патрабуюцца аператары машыннага даення з заробкам ад 350 рублёў і трактарысты (300).

Трактарысты патрабуюцца і льнозаводу, але тут збіраюцца заплаціць ім 400 рублёў.

ЗАТ АСБ "АграНаватар" шукае вадзіцеляў катэгорый "С" і "Д" для працы на МАЗе за 400 рублёў.

"Бель-Бімба плюс" шукае швеяў з заробкам 270 рублёў. (У студзені гэтага года заробак быў на 10 рублёў вышэйшы.)

На "Белкатламашы" патрабуецца дырэктар прадстаўніцтва па Паўночна-Заходняму рэгіёну Расіі з акладам 1200 рублёў, галоўны канструктар (900) інжынер па матэрыяльна-тэхнічнаму забяспячэнню (500), менеджар па персаналу (550 руб).

ПГУП "ВаяжТрансЛагістык" шукае вадзіцелей міжнароднага класа (ад 310 руб).

АТП-21 шукае вадзіцеляў катэгорыі "С" на заробак 400 рублёў і інжынера (500 руб).

Аддзел культуры Бешанковіцкага РВК шукае харэографа з заробкам 270 рублёў і рабочага па комплекснаму абслугоўванню і рамонту будынкаў (265 руб).

Раённаму аддзяленню МНС патрэбны ратавальнік-пажарны з агульнай сярэдняй адукацыяй і заробкам 400 рублёў.

Нарэшце РСТ (райпо) традыцыйна шукае прадавачак (350 руб) у магазіны Крупеніна, Будзілава, Сініцы, Вярхоўе і Бешанковічаў.

Тэлефоны арганізацый, якія прапануюць вакансіі, можна знайсці на сайце http://gsz.gov.by

**М.Васільеў**

З СУДОВАЙ ЗАЛІ

# СПРАВА БЫЛА Ў ЗАМОШШЫ

**Празмернае ўжыванне алкаголю прывяло ўчарговы раз на лаву падсудных грамадзяніна Вялігуру, маладога чалавека які атрымаў адукацыю, але які не працаваў па атрыманай спецыяльнасці. Ён вёў бяздзейны лад жыцця, з'яўляўся апекуном бацькі інваліда. Бацькі без рэгістрацыі пражывалі ў вёсцы Замошша Бешанковіцкага раёна, а ён у горадзе Віцебску, хоць часам прыязджаў вырашыць іх праблемы.**

5-га красавіка 2017 года Вялігура знаходзіўся ў бацькоў у вёсцы Замошша. З самай раніцы займаўся добрай справай — арганізаваў паездку маці да ўрача ў Віцебск. Каля 14 гадзін прыехаў у вёску Соржыца, дзе ў краме набыў прадукты харчавання і бутэльку гарэлкі. Практычна ў бязлюднай вёсцы пражываў пенсіянер Карэлін. Жыў ціха, дапамагаў суседзям.

Шляхі Вялігуры і Карэліна перасекліся на вясковай вуліцы і бутэльку гарэлкі, набытую Вялігурай, яны распілі ў лазні апошняга пад добрую закуску.

Вялігура пачаставаў Карэліна пачкам цыгарэт, Карэлін яго бярозавым сокам, за якім схадзілі разам. І ўсё было добра, але выпітага спіртнога аказалася мала. Вялігура вырашыў з'ездзіць па гарэлку ў вёску Соржыца. І трэба ж было так ому здарыцца, што машына бацькі, якую ён не змог завесці раніцай для паездкі ў паліклініку, узяла і завялася. Адсутнасць пасведчання кіроўцы і не адбыццё тэрміна пакарання ў выглядзе пазбаўлення права займацца дзейнасцю звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі, не спыніла Вялігуру. Гарэлка была дастаўлена і прыемныя зносіны за бутэлькай працягнуліся.

У нейкі момант Вялігура выявіў прапажу кашалька, які ён прыхапіў, калі кашалёк выпаў з кішэні невідушчага бацькі і той не заўважыў гэта. Падазрэнне ўпала на Карэліна, але той не прызнаўся ў крадзяжы. У адурманенай алкаголем свядомасці паўсталі карціны зносін з бацькам з нагоды знікнення кашалька і Вялігура жорстка збіў Карэліна, а затым зноў сеў за руль аўтамабіля, які належыў яго бацьку, і з'ехаў з двара ў бок вёскі Целяпы. Разумеў, што парушае закон, едзе без пасведчання кіроўцы ў нецвярозым стане.

Убачыўшы сустрэчны аўтамабіль, няўдала зрабіў разварот, з'ехаў у кювет і, выскачыўшы з машыны, накіраваўся праз кусты да дома бацькоў. Па дарозе дадому паспеў пасварыцца з суседкай, а па прыездзе работнікаў міліцыі аказаць ім непадпарадкаванне.

На наступны дзень Карэліна знайшлі мёртвым недалёка ад дома.

Як вынік усяго зробленага Вялігурай — завядзенне крымінальнай справы па трох складах злачынстваў. У выніку Вялігура прызнаны судом вінаватым у тым, што ён, будучы ў стане алкагольнага ап'янення падчас сваркі, што ўзнікла на глебе непрыязных адносін, наўмысна нанёс Карэліну не менш як 9 удараў кулакамі і абутымі нагамі, у вобласць галавы, шыі левай рукі, прычыніўшы яму, згодна з заключэннем эксперта, менш цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Ён жа, з'яўляючыся асобай, якая раней учыніла злачынства, прадугледжанае ч.1 арт. 317-1 КК Рэспублікі Беларусь, за якое асуджаны 11-га лютага 2013 года , будучы ў стане алкагольнага ап'янення, не маючы права кіравання транспартным сродкам, кіраваў аўтамабілем маркі «ВАЗ-2102», які належыць яго бацьку і быў затрыманы супрацоўнікамі ДАІ Бешанковіцкага РАУС.

Вялігура асуджаны да пакарання ў выглядзе 2 гадоў пазбаўлення волі без штрафу, з пазбаўленнем права кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам на 5 гадоў.

Да прызначанага пакарання цалкам далучана пакаранне, не адбыцця па прыгаворы суда ад 11-га лютага 2013года ў выглядзе пазбаўлення права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі тэрмінам на 7 месяцаў 12 дзён. Прысуд суда ўступіў у законную сілу і два гады Вялігура правядзе ў калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

Транспартны сродак «ВАЗ 2102», канфіскаваны на карысць дзяржавы.

Хочацца спадзявацца, што такая сітуацыя стане апошняй у біяграфіі Вялігуры, а прызначаная мера пакарання будзе спрыяць гэтаму.

**Намеснік пракурора раёна малодшы саветнік юстыцыі Э. Лешанок**

НАША ШКОЛА

# БЯГОМ У МІНУЛАЕ

**Хуткасць, з якой наша адукацыя аддаляецца ад свайго часу, уражвае. Астатнія бягуць у іншы бок.**

Настаўнікі фізкультуры могуць быць шчаслівыя: яны выдатна навучылі нас бегаць. З кожным крокам, з кожнай рэформай нашай школы мы набіраем усё большую хуткасць, і фініш ужо блізка, і вось-вось мы парвем шырокімі грудзьмі запаветную стужачку, выкінем рукі ў пераможным жэсце і зможам, нарэшце, агледзецца: а чаму за намі ніхто не фінішуе? Астатнія дзе?

А астатнія бягуць у іншы бок, вось у чым парадокс. У людзей дваццаць першае стагоддзе, і на гарызонце ўжо маячыць дваццаць другое. Мы ж чамусьці з упартасцю, вартай лепшага прымянення, на ўсіх парах, сумленна і самазабыўна, нясемся назад у дваццатае.

Навошта, напрыклад, мы патрабуем ад дзяцей дзелавога стылю адзення? Да чаго мы іх рыхтуем? Паглядзіце на перадавыя вытворчасці: хто ходзіць туды сёння ў касцюмах і гальштуках? Офісы Google і Facebook, ды што там, любы IT-офіс у нашай праграміцкай арыентаванай эканоміцы - ён што, забіты клеркамі ў белых каўнерыках? Свет рухаецца да выгоды ў адзенні - чаму мы рухаемся ў адваротны бок? Ды і ў рэшце рэшт: з якога гэта часу навык нашэння дзелавога адзення стаў настолькі складаным, што вучыць яму трэба адзінаццаць гадоў?

У савецкай школе, арыентаванай на калектыўны дух, на выхаванне салдат у страі, на навучанне класамі і групамі, школьная форма была як мінімум зразумелая. Зараз жа мы дэкларуем індывідуальнасць у навучанні - і запіхваем усіх дзяцей у дрэс-код. Яно, вядома, зазірнуць у клас і ўбачыць дзетак у гарнітурах - заўсёды прыемна, вока цешыцца. Чаму вока не радуецца джынсам і кофтачкам - растлумачыць немагчыма нічым, акрамя як састарэлымі прызмамі ў воку, якое цешыцца.

Навошта, скажыце мне, школа працягвае лезці ў сям'ю? Дыферэнцаваць сем'і згодна нейкім дзіўным нормам? Складаць спісы ўмоўна шчасных і ўмоўна няўдалых - спісы, пабудаваныя на дзіўных умовах і нормах?

Згодна з нарматыўнымі дакументамі, пастаноўцы на ўлік «сем'яў, у якіх ёсць некаторае адхіленне ад нормы», падлягаюць: шматдзетныя, няпоўныя, вернікі, прыёмныя сем'і.

Ацаніце маштаб катастрофы: не сем'і, у якіх тата, скажам, алкаголік. Не сем'і, у якіх мама трывае дзесяцігоддзямі мужа-тырана. Не сем'і, у якіх культывуецца, напрыклад, культ сілы і хлусні. А сем'і, у якіх бацькі абралі для сваіх дзяцей строгую маральна-маральную парадыгму развіцця. Сем'і, у якіх мама знайшла ў сабе сілы - і выставіла з дому нягоднага мужчыну. У рэшце рэшт, сем'і, у якіх мама і тата бяруць на сябе адказнасць гадаваць траіх, чацвярых, пецярых.

Калі ўжо хочацца кагосьці паставіць на нейкі ўлік - чаму выбіраюцца нейкія неймаверна састарэлыя крытэрыі родам з патрыярхальнай савецкай вёскі?

Навошта - з якіх высокіх мэтаў? - мы працягваем вучыць нашых дзяцей паказусе, прыпіскам і хлусні, на якіх семдзесят гадоў трымалася савецкая імперыя? Варта толькі вокам глянуць патрабаванні, што прад'яўляюцца да ўдзельнікаў навукова-практычных канферэнцый: у рабоце трэба сфармуляваць мэты і задачы, аб'ект і прадмет, ацаніць літаратуру па тэме. А ўжо колькі абставін у фармулёўцы назвы!

Як чалавек, які мае за плячыма кандыдацкую дысертацыю, сведчу: патрабаванні абсалютна тыя ж. Вы бачылі дзе-небудзь дзяцей, якія ўмеюць і тых, што любяць гэта рабіць? Вы разумееце, навошта іх гэтаму вучыць? Чаму ўвесь свет ужо даўным-даўно рухаецца ў бок навукова-папулярных тэкстаў, свабодна напісаных эсэ і разнастайнасці выказванні навуковай думкі - а мы працягваем запіхваць навуку ў невытлумачальныя рамкі афіцыйна-дзелавых патрабаванняў?

Ну што ж, трэба дык трэба: настаўнік садзіцца і піша ўсе гэтыя мэты-задачы, фармулюе тэму (ці ведаеце вы, што для настаўнікаў існуюць спецыяльныя платныя курсы з гэтай нагоды?) - а потым выходзіць дзіця і бадзёра барабаніць перад журы напісанае настаўнікам, але падпісанае - вучнем. Чаму навучаны гэтыя вучні? Не тым фармулёўкам, а плагіяту!

Свет рухаецца ў бок чалавека, усведамляючы каштоўнасць кожнай асобнай асобы. Мы ў гэты час прапісваем нарматывы.

Свет дыферэнцыруе навучальныя ўстановы, разумеючы адрозненні ў інтэлектуальных патрэбах. Мы ў гэты час закрываем гімназіі.

Свет піша тысячы новых падручнікаў, каб кожнаму свой. Мы ў гэты час настойваем на адзіным падручніку і забараняем да выкарыстання ўсё, што акрамя гэтага адзінага.

Свет кажа пра індывідуалізацыю адукацыі. Мы ў гэты час запіхваем 30 дзяцей у клас.

Чалавек даўным-даўно зразумеў сваю ўласную самакаштоўнасць. Мы ж хочам, каб ён апрануў касцюм, сеў «рукі на парту», вызубрыў напісаны настаўнікам тэкст і ўсміхаўся, прэзентуючы чужыя мэты і задачы высокаму журы.

А потым мы здзіўляемся: дзе нашы Сухамлінскія, Макаранкі і Львы Талстыя? Але Макаранка ніколі не выконваў дрэс-код, а Леў Талстой не ўдзельнічаў у паказушных навукова-практычных канферэнцыях. Ён наогул, шчыра кажучы, ніводнай навучальнай установы не скончыў. І як ён прымудрыўся вырасці ў вялікага пісьменніка і філосафа, не прыкмечаны завучам па выхаваўчай рабоце, розуму не прыкладу. Так, і сям'я яго, Льва гэтага Талстога, веруючая і шматдзетная, сягоння на ўліку стаяла б, ага. А як Леў Мікалаіч сабраўся і ў паломніцтва сышоў у пошуках маральнага ідэалу - тут бы іх і ў спісы СОПа ўключылі. Маўляў, не дуры!

А наш Максім Багдановіч? Выхоўвае бацька, маці памерла - гэта ж які непарадак! У праблемныя яго! А паглядзіце, колькі ў яго заўваг у класным журнале! А ацэнкі, вы бачылі яго ацэнкі? Божа мой, ды па ім савет прафілактыкі плача! І чаму ў конкурсах гэты ваш Багдановіч не ўдзельнічае? А алімпіяды яго дзе? Дзе, я вас пытаю, яго перамогі ў рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мовы? На якой падставе вы залічылі яго ў адораныя? Дзе ваш план працы з ім, раз ужо ён у вас таленавіты? Узгоднены ён на метадычным аб'яднанні? А подпіс завуча дзе? Вы што, не ведаеце, што ў нас без подпісу завуча ні адзін таленавіты міма міністэрства адукацыі не праскочыць?

Але самае непрыемнае не ў гэтым нават. Самае непрыемнае - у тым, што ад асінкі не народзяцца апельсінкі. Якія мы - такая ў нас школа. Пакуль мы патрабуем ад сваіх уласных дзяцей быць кімсьці, а не самімі сабой, пакуль сядзім з імі за хатнімі заданнямі, каб яны заўтра прыйшлі - і за мамчыны намаганні атрымалі ацэнку, пакуль патрабуем ад іх не ведаў, а «дзясятак», пакуль не дазваляем ім быць, кім яны хочуць, а не кім мы лічым правільным, пакуль мы жадаем дзецям «быць паслухмянымі і слухацца дарослых», замест таго каб дазваляць ім супрацьўляцца, не згаджацца і казаць цвёрдае «не» дурным ініцыятывам дарослых - да таго часу мы ўсе разам бяжым да фінішу ў адным кірунку з нашым родным міністэрствам адукацыі.

**Ганна Севярынец**

## АБ'ЯВА

• ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

• ***Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

• ***Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

«ЗАХАД-2017»

# ЛУКАШЭНКА ПАКРЫЎДЗІЎСЯ?

**Вайсковыя вучэнні «Захад-2017» скончыліся. Расійская тэхніка пакідае межы Беларусі. Што пісалі пра вынікі вучэнняў у Расіі? «Наша Ніва» зрабіла падборку меркаванняў.**

**Росбалт: Лукашэнку ўказалі яго месца?**

«Расійска-беларускія вучэнні «Захад-2017» скончыліся зруйнавальнай паразай — як ўмоўнага праціўніка, так і добрых адносін Мінска з усімі суседзямі», — адзначае выданне Росбалт.

Аўтар матэрыяла Дзяніс Лаўнікевіч адзначае, што Расіі цяпер ужо зусім неабавязкова праводзіць гібрыдную акупацыю Беларусі, бо «несамастойнасць афіцыйнага Мінска і яго бездапаможнасць у вайскова-палітычным плане была прадэманстравана ўсяму свету, а адносіны з суседзямі — начыста сапсаваныя».

«Цяпер можна смела выказаць здагадку, што пасля завяршэння вучэнняў адносіны паміж Мінскам і Масквой нейкі час будуць дастаткова прахалоднымі. Расія занадта ярка прадэманстравала несамастойнасць Беларусі ў вайскова-палітычных пытаннях і яе нікчэмную значнасць у рэгіёне ў выпадку сілавога супрацьстаяння.

Зразумела, што беларускае кіраўніцтва пакрыўдзілася: выходзіць, што падчас вучэнняў Крэмль папросту выкарыстаў саюзніка як сатэліта, каб падкрэсліць уласную вайсковую сілу. Пасля гэтага, атрымліваецца, еўрапейцам проста няма пра што весці перамовы з афіцыйным Мінскам — цяпер усё выглядае так, што ад Лукашэнкі ў рэгіёне ў пытаннях бяспекі рэальна нічога не залежыць», — адзначае Росбалт.

**«Баявыя сябры» рассварыліся?**

Вайсковы аглядальнік Аляксандр Гольц піша: «Выснова, якая вынікае з вучэнняў «Захад-2017», заключаецца ў тым, што ніякай аб'яднанай расейска-беларускай рэгіянальнай групоўкі войскаў не існуе ў прыродзе. Бакі нават не лічаць патрэбным апаратыўна дамаўляцца пра сцэнар баявых дзеянняў, які яны адпрацоўваюць».

«На працягу многіх гадоў Лукашэнка спрытна гуляў на комплексах расійскага кіраўніцтва, ніяк не жадаючага змірыцца з адсутнасцю рэальных вайсковых саюзнікаў. Ён умудрыўся атрымліваць шматмільярдныя эканамічныя бонусы ў абмен на славесныя запэўніванні у гатоўнасць ваяваць плячом да пляча з расейцамі. Але вось пасля анексіі Крыма і сакрэтнай вайны на Данбасе натаўскія батальёны разгарнуліся ў краінах Балтыі і Польшчы. Вайсковае супрацьстаянне Расіі і Паўночнаатлантычнага альянсу стала рэальнасцю. І беларускі лідар імгненна зразумеў: у гэтым выпадку вайсковыя аб'екты на тэрыторыі яго краіны ператвараюцца ў мэты першага ўдару. І неадкладна адмовіўся ад сваіх абяцанняў. Ён да бясконцасці удакладняе палажэнне аб Адзінай сістэме СПА, адхіляе любую магчымасць размяшчэння расійскай авіябазы ў Беларусі. Так што нельга выключаць, што «Захад-2017» стане пачаткам размежавання дзвюх краін у вайсковай сферы», — прагназуе Аляксандр Гольц.

**Лукашэнка пакрыўдзіўся?**

«Адносіны Расеі і Беларусі зноў коцяцца пад гару — перш за ўсё праз загад Пуціна, які запатрабаваў, каб беларускія вытворцы нафтапрадуктаў гандлявалі імі праз расейскія, а не прыбалтыйскія парты. Бацька, як кажуць, не на жарт пакрыўдзіўся. А убачыўшы, што тэма вучэнняў выклікае неадназначную рэакцыю на Захадзе, з якім Мінск цяпер яўна не мае намеру сварыцца, вырашыў лішні раз не "свяціцца" у кампаніі расейскага прэзыдэнта», — робіць высновы «Московскій комсомолец».

**Лукашэнка манеўрамі задаволены**

«Независімая газета» не верыць у бясхмарнасць адносін паміж Мінскам і Масквой, нягледзячы на ўсе запэўніванні Лукашэнкі.

«Разнагалоссі паміж саюзнікамі нікуды не дзеліся, нягледзячы на красавіцкае нафтагазавае перамір'е. Той факт, што назіраць за вучэннямі разам з Лукашэнкам не прыехаў нават міністр абароны Расіі Сяргей Шайгу, толькі ўмацавала ў гэтым меркаванні.

Адносна рэальных прычын паасобнага ўдзелу «ў вайне» мясцовыя аналітыкі будуюць розныя версіі. Ад бяскрыўднай, што «не хацелі яшчэ больш дражніць Захад» да «асноўныя падзеі вучэнняў праходзяць зусім не ў Беларусі, а ў Расеі». Апошняя версія набывае ўсё большую папулярнасць. «Расейцы нечакана для Лукашэнкі разгарнулі значна большыя вучэнні, чым меркавалася па першапачатковым плане. Прычым расійскі бок падвярстаў да «Захаду-2017» цэлы шэраг манеўраў, вучэнняў, якія не планаваліся», — лічыць вайсковы эксперт Аляксандр Алесін. Праігнараваўшы візіт на беларускі палігон, «расейцы паказалі, хто галоўны партнёр», мяркуе эксперт».

**А калі не стане абодвух?**

Па звестках «Коммерсанта», яшчэ ў сераду раніцай беларускія ўлады разлічвалі, што вучэнні наведае міністр абароны Сяргей Шайгу. «Аднак праз падзеі ў сірыйскім горадзе Ідліб яму давялося свае планы перагледзець», — адзначае выданне.

«Падабалася ўсё, што адбываецца на палігоне і Аляксандру Лукашэнку. Спадабалася б, напэўна, і Уладзіміру Пуціну, калі б ён прыехаў у Беларусь. Спадар Лукашэнка пракаментаваў яго адсутнасць на вучэннях коратка: «Калі снарад у адно месца — абодвух адразу не стане». Гэта быў, вядома, жарт: відавочна, так ён намякнуў на інцыдэнт з самаадвольным сходам ракеты з верталёта Ка-52 падчас расійскай часткі вучэнняў у Ленінградскай вобласці», — зазначае «Камерсант».

**Зміцер Панкавец**
***"Наша Ніва"***

ПАМЯЦЬ ПРА РЭПРЭСІІ

# ЦІ ВАРТА АДКРЫВАЦЬ АРХІВЫ КДБ?

**Пад петыцыяй з патрабаваннем зняць грыф «сакрэтна» з усіх дакументаў, якія захоўваюцца ў архівах за 1917–1953 гады, у тым ліку — забяспечыць свабодны доступ да спраў рэпрэсаваных за часамі Сталіна, агучыць і пазначыць усе месцы масавага пахавання рэпрэсаваных падпісалася ўсяго 1137 чалавек.**

Для краіны — гэта кропля ў моры. У Беларусі хапае іншых праблемаў — сацыяльных, эканамічных, дэмаграфічных — і зусім не завязаных на мінулым. Дык навошта адкрываць савецкія архівы зараз, калі ўжо і час прайшоў, і катаў, якія маглі б паўстаць перад судом, няма сярод жывых, і так напісаныя шматтомныя манаграфіі?

З боку сённяшніх нашчадкаў супрацоўнікаў НКУС ды афіцыёзных журналістаў часцяком можна пачуць: «Як гэта, адкрыць архівы? Ды тут такое пачнецца! Помста, разбіральніцтвы, скандалы…» Калі кажуць пра месцы расстрэлаў, па прыкладзе тых жа Курапатаў, зазвычай дадаюць, што ляжаць там далёка не толькі паэты ды навукоўцы. Там багата тых жа супрацоўнікаў савецкіх органаў, якія трапілі пад чарговую хвалю рэпрэсій, — а значыць, і іх трэба ўшаноўваць!

Рэдактар буйной дзяржаўнай газеты, здаецца, нават прыводзіў прыклад сваіх пошукаў у архівах КДБ напачатку 1990-х гадоў, калі наўпрост жахнуўся ад прачытанага: вялізная колькасць тых, хто ў нас прынята шанаваць як літаратараў нацыянальнага значэння, а ў наступным — бязвінных ахвяраў, самі працавалі на органы, здавалі і падстаўлялі сваіх сяброў ды знаёмых. Дык як далей фармаваць нацыянальны пантэон, ведаючы ўсё гэта?

Насамрэч, усе гэтыя аргументы нагадваюць элементарнае «забоўтванне» суразмоўцы. І чым больш туману і містыкі ў падобных размовах, тым страшней павінна быць. Маўляў, хай скрыня Пандоры застаецца зачыненай, бо інакш усё развaліцца: і наша — дзяржаўнае, і ваша — дэмакратычнае.

Пачнём з «вендэты», якая нібыта можа пачацца адразу пасля рассакрэчвання. Сёння мы маем прыклады не толькі краінаў Усходняй Еўропы і Балтыі, дзе архівы апублічаныя амаль 30 гадоў таму, але і Украіны, у якой да дакументаў СБУ доступ адкрылі пасля перамогі Майдану. Скажыце, дзе і калі канкрэтна зафіксаваныя прыклады такога кшталту «вендэты» на падставе архіўных дадзеных? Або нехта лічыць, што кроў у беларусаў больш гарачая за румынскую, вугорскую альбо ўкраінскую?

Ёсць і прыклад Германіі, дзе архівы гестапа і НСДАП з прозвішчамі катаў і ахвяраў трапілі ў агульнае карыстанне адразу пасля вайны. Па-іншаму і быць не магло, бо без агучвання праблемы і яе выніку не магло быць дэнацыфікацыі. Уявіце сабе, каб нехта спрабаваў супраціўляцца агучванню прозвішчаў ахоўнікаў Аўшвіцу на падставе таго, што ім гэта можа зашкодзіць! Сёння што вертухаі з Калымы, што следчыя з Полацку альбо Баранавічаў, якія працавалі ў 1930–1940-я, даўно знайшлі вечны спакой. Дык чаго баяцца? Адкрыйце архівы.




Калі кажуць пра супрацоўнікаў НКУС, якія могуць ляжаць побач са сваімі ўчорашнімі падследнымі ў Курапатах, дык ніхто ж гэтага і не аспрэчвае. Тым больш, агучванне поўнага спісу прозвішчаў катаў, і ахвяраў, а таксама катаў, якія сталіся ахвярамі, дапамока паказаць трагедыю максімальна шматбакова. Пры падобным рэжыме кіравання ніхто не можа адчуваць сябе ў бяспецы: якія б пагоны альбо шаўроны ні насіў, чый бы партрэт ні стаяў на працоўным стале. Кажаце пра чэкістаў-ахвяраў? Давядзіце, адчыніце архівы.

Аргумент пра тое, што адкрыццё архіваў аўтаматычна здыме німбы з пэўнай колькасці нацыянальных дзеячаў, цікавы, але зноў — міма. Калі ты не маеш інфармацыі, асабліва пасля такіх заяў, то і падазраеш усіх. Тут як з фантазіямі раўнівага мужа: калі жанчына можа здрадзіць, значыць, здраджвае штораз, як выходзіць з хаты — нават калі ідзе ў краму па малако. Таму агучванне праўды не толькі здыме німбы з адных, але і дасць безумоўнае алібі іншым, якія адмовіліся, не раскалоліся, не здрадзілі. Магчыма, нацыянальны пантэон кагосьці згу¬біць пасля гэтага, але абавязкова кагосьці знойдзе. Каб пераканацца — адкрыйце архівы.

Часцяком можна пачуць рэплікі: маўляў, дзяржбяспека займалася не адно палітыкай, але і крымінальнікамі, і карупцыянерамі, і сапраўднымі замежнымі шпіёнамі, то бок — профільнай працай. Таму і мазаць чорнай фарбай усіх не варта. Пакінем убаку аналогію, кшталту таго, што КрыПо (крымінальная паліцыя ў Трэцім рэйху) таксама лавіла гвалтаўнікоў і злодзеяў, бо гэта — іх абавязкі, пытанне ў іншым. Калі так — давядзіце гэта, пакажыце сапраўды шчырых чэкістаў з чыстымі рукамі, якія баранілі суайчыннікаў, а не толькі правадыра партыі. Як? Адчыніце архівы.

Наогул, уяўленне пра тое, што агучванне нейкай інфармацыі, звязанай са злачынствамі дзяржавы супраць яе грамадзян, можа справакаваць невылечны крызіс у грамадстве, сведчыць толькі аб адным: ні пра які давер паміж уладай і народам размовы быць не можа. Давайце шчыра, крызіс даверу ўжо і так ёсць, і акурат каб яго мінімізаваць, патрэбная празрыстасць сістэмы і права кожнага на праўду. Таму, для пачатку, адкрыйце архівы!

**Алесь Кіркевіч**
***"Новы Час"***

ДЭКРЭТ №3

# ТУНЕЯДЦЫ НЕ ЯВЛЯЮТСЯ НАГРУЗКОЙ НА БЮДЖЕТ…

**Оппозиция представила свою альтернативу декрету «о тунеядцах» на пресс-конференции правоцентристской коалиции в виде пакета законопроектов, альтернативных декрету № 3 «О предупреждении социального иждивенчества».**

Как сообщил руководитель рабочей группы по разработке проектов документов, глава Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук, анализ декрета номер № 3 показал, что «научной ценности данный документ не имеет, так как содержит противоречия и вызывает негативные явления, о которых говорят не только политики, но и люди». «Заявление о том, что тунеядцы являются нагрузкой на бюджет, — выдумка. Даже в цене продуктов около 30% — налоги. В итоге в год около 6,5 млрд долларов налогов граждане уплачивают косвенно, через покупку товаров и услуг», — сказал он.

Разработанный пакет альтернативных документов, по словам Романчука, предусматривает комплекс мер по обеспечению «быстрого, долгосрочного инклюзивного экономического роста». В частности предусмотрено принятие законопроекта об адресной социальной защите, переход в режим финансирования начального и среднего образования посредством образовательных ваучеров, а также переход в режим страховой медицины посредством открытия каждым гражданином страхового медицинского накопительного счета.

Правоцентристы намерены вынести разработанные проекты на широкое общественное обсуждение, а также передать их в заинтересованные ведомства и организовать ряд круглых столов, в том числе в регионах. «Мы хотели бы, чтобы граждане могли сформировать свое мнение по поводу новой редакции декрета, разрабатываемого властью, и нашего альтернативного проект документов», — пояснил председатель ОГП Анатолий Лебедько.

По словам председателя движения «За Свободу» Юрия Губаревича, государство должно вывести экономику из тени. «Наш проект документов показывает, как легальными путями улучшить финансирование бюджета и различных госпрограмм, не используя в экономике репрессивный путь», — сказал он.

«Мы понимаем, что изменения в нашей стране могут быть связаны не с репрессивными декретами, а проведением глубоких реформ», — добавил сопредседатель оргкомитета БХД Виталий Рымашевский.

Депутат Палаты представителей Анна Канопацкая, которая является членом ОГП, подчеркнула, что правоцентристы выносят документы на всеобщее обсуждение, а не «готовят их втихаря, как власти». «Мы исходили из того, что именно реформы нужны стране для выхода из социально-экономического и политического кризиса», — заявила она.

Первоначально планировалось, что пресс-конференция состоится в Палате представителей, однако оппозиционным политикам отказали в доступе в парламентский пресс-центр. В итоге мероприятие прошло в отеле «Монастырский», после чего Канопацкая одна презентовала альтернативные декрету № 3 документы в Палате представителей.

Декрет № 3 обязывает граждан Беларуси, постоянно проживающих на территории страны иностранных граждан и лиц без гражданства, которые не участвовали в финансировании государственных расходов или участвовали в таком финансировании менее 183 календарных дней в году, уплачивать сбор в 20 базовых величин. Иначе им грозит штраф или административный арест. Декрет вызвал протесты граждан, пик которых пришелся на весну этого года.

По данным Министерства по налогам и сборам, сбор уплатили более 54 тыс. человек из 470 тыс., которым были разосланы уведомления. В местные бюджеты поступило 16,3 млн рублей.

В начале июля Александр Лукашенко распорядился начать возврат сбора, уплаченного по декрету. Деньги возвращаются только тем, кто смог трудоустроиться. На совещании 3 августа он заявил, что «никакой отмены декрета № 3 быть не может», речь идет о новой редакции этого документа.

**Сергей Королевич**
**naviny.by**

"НА КАРТОШКУ"

# «… БЕСПРАВНОЕ МОЛЧАЛИВОЕ БЫДЛО»

**Трагедия в Молодечненском районе, когда во время уборки урожая погибла 13-летняя девочка, оставила свой отпечаток на системе помощи сельхозпредприятиям. Теперь главными трудовыми ресурсами станут учащиеся колледжей, учителя. «На картошку» отправляются, в большинстве своем, женщины и ученики колледжей.**

К сожалению, нередко работники бюджетных организаций предпочитают молчать и терпеть даже тогда, когда им предлагают не самые выгодные условия труда. К нам обратилась Васильева Анна Аркадьевна, педагог высшей категории с более чем 30-летним стажем из средней школы № 1 Новолукомля (Витебская область). Ее коллектив также был призван на сельскохозяйственные баррикады страны, причем на сбор урожая педагогам предлагается потратить свой методический день. Ведь помощь следует оказать без ущерба для учебного процесса.

«В нашей школе висит объявление о том, что учителя в свой методический день или в субботу (по графику) должны выехать на сельхозработы в КУСХП „Кащенское". Предприятие обещает своевременную оплату в натуральной форме. Поясняю: за урок учитель со стажем и высшей категорией получает чуть меньше 5 рублей. Мне за 4-5 часов тяжкого физического труда заплатят, в лучшем случае, ведром картошки.

Нашего согласия никто не спрашивает. Никакого договора со мной лично предприятие на заключало. Я не поеду. Мне 56, контракт со мной на год, надбавка маленькая. То есть наказать меня сложно — я ничем не рискую. Но жалко людей. Ведь загонят. А они только мычать будут, потому что существующая система контрактов и надбавок за лояльность сделала из учительства, да и других наёмных работников, бесправное молчаливое быдло»

Можно понять возмущение женщины: какое отношение педагоги могут иметь к уборке картофеля? Тем более трудно представить, что учителей ожидает достойная оплата за тяжелый физический труд. На следующий день, после того как Анна Аркадьевна связалась с нами, мнение руководства по поводу сельхозработ изменилось:

«Директор сказала мне, что я не еду, что завуч, составлявшая этот график поездок в колхоз, не учла всех обстоятельств. О каких обстоятельствах она говорила, я не стала уточнять. Мне всё равно — еду или не еду. Меня возмущает сам факт того, что людей принуждают к практически бесплатному труду и делает это государственный орган власти, открыто и беспардонно. И все молчат. Детей боятся посылать после прошлогодней трагедии с девочкой в Молодечненском районе. Зато могут послать без оформления трудовых отношений женщин. А не дай Бог, кому-то плохо станет, кто-то после заболеет... Будет как с той девочкой: вы не работник данного предприятия, с вами не заключался договор»

Чтобы разобраться в ситуации, с которой столкнулась Анна Аркадьевна, мы обратились за комментарием к правозащитнику Белорусского Хельсинкского Комитета Павлу Левинову: «Согласно статье 13 Трудового кодекса Республики Беларусь принудительный труд запрещен. Читайте внимательно трудовой контракт (договор) и должностные обязанности. Если в них ничего не прописано об уборке урожая, то никто не имеет права вас принудить к выполнению такой работы. Что делать, если все же принуждают? Обратитесь в прокуратуру, которая обязана осуществлять контроль за соблюдением законодательства.»

**https://vkurier.by**

ВАКОЛ "МАТЫЛЬДЫ"

# ЧАМУ КАХАНЬНЕ АБ'ЯЎЛЕНА СЬВЯТАТАЦТВАМ

**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Павел асудзіў расейскі фільм «Матыльда» і заклікаў вернікаў яго не глядзець. Добра, што хоць не патрабуе забароны, не заклікае да анафэмы, не ладзіць хрэсны ход з пратэстам супраць паказу. Хоць, на мой погляд, такая скандальная ўвага да гэтага твору толькі робіць яму дадатковую рэкляму.**

Для беларусаў гэтыя расейскія спрэчкі малазразумелыя. Асоба Мікалая II не выклікае тут ніякіх асаблівых эмоцыяў. У Беларусі не існуе ўплывовага грамадзкага руху, заснаванага на ідэалягічнай сумесі праваслаўя, манархізму і імпэрскасьці.

Праблема палягае ў тым, што Мікалай II кананізаваны Рускай праваслаўнай царквой у якасьці сьвятога. І царква лічыць, што сьвятога нельга паказваць як звычайнага чалавека, тут ня можа быць ніякага мастацкага ўвасабленьня вобразу.

Рэч у тым, што кананізацыя Мікалая II адбылася ў той кароткі пэрыяд постсавецкай гісторыі Расеі, калі ўсё, што рабілі бальшавікі і Савецкая ўлада, ацэньвалася са знакам мінус, а іхных палітычных праціўнікаў надзялялі ўсімі станоўчымі якасьцямі. Фактычна сьвятым яго абвʼявілі толькі за сам факт пакутніцкай сьмерці. Царква паддалася агульнаму грамадзкаму настрою і тым самым стварыла тую праблему, якая цяпер вылезла на паверхню.

Праблема якраз у тым, што пакутнікам абвяшчаюць гістарычную постаць, палітыка, прычым не такога далёкага мінулага. І гэта вельмі спрэчнае рашэньне. Бо Мікалай II, як і любы палітык, — вельмі супярэчлівая фігура, нават з гледзішча расейскай гісторыі. На ім ляжыць шмат грахоў. Гэта і «крывавая нядзеля» (расстрэл мірнага шэсьця рабочых у Санк-Пяцербургу 9 студзеня 1905 году), і падтрымка чарнасоценцаў, вінаватых у габрэйскіх пагромах. А сумна вядомая распуціншчына прывяла да таго, што цар апынуўся ў ізаляцыі нават у асяродзьдзі імпэратарскай сямʼі. І з гледзішча імпэрскай велічы Расеі кіраваньне Мікалая II нельга назваць удалым. Ганебныя вынікі ў вайне Расеі зь Японіяй — гэта ўвогуле першая параза краіны эўрапейскай ці хрысьціянскай цывілізацыі у ваенным канфлікту з азіяцкай дзяржавай. І ў Першай усясьветнай вайне, падчас якой цар абʼявіў сябе вярхоўным галоўнакамандуючым, Расея атрымала ў асноўным паразы. Нямецкія войскі акупавалі вялікую частку імпэрыі, уключаючы палову тэрыторы Беларусі.

А цяпер, паводле РПЦ, Мікалай II — сьвяты. І гэта значыць, што нічога дрэннага пра яго пісаць, здымаць ці маляваць нельга. То бок і гістарычныя працы на тэмы ягонага цараваньня забаронены? Відавочны абсурд. РПЦ сама стварыла сабе праблему, трапіла ў пэўную пастку.

Не менш цікавыя і такія разважаньні мітрапаліта Паўла. Маўляў, сёньня зьневажаем імпэратара Мікалая II, заўтра будуць зьневажаць Уладзіміра Ільіча Леніна, а пасьлязаўтра — некага іншага. Пра некага іншага — гэта пра каго? Нават баюся рабіць здагадкі.

А вось пра Леніна — гэта цікава. З кантэксту гэтай фразы мітрапаліта вынікае, што зьняважлівыя творы пра Леніна — гэта яшчэ большае сьвятатацтва, чым пра Мікалая II. Але ж менавіта са згоды «правадыра ўсясьветнага пралетарыяту» прыняў пакутніцкую сьмерць апошні расейскі цар і ягоная сямʼя. То бок кат і ягоная ахвяра ўзводзяцца на адзін узровень? Дзіўная паралель.

А фільм «Матыльда» ў беларускіх кінатэатрах, нягледзячы на пратэсты царквы, пачне дэманстравацца ўжо з 26 верасня.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:**
Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.09.2017 у 18.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.